Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАР[...]

№ 3. Нядзеля, 8 красавіка 1928 г. м. Вільня.

# ГРАМАДЗЯН[...]

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕН[Ь]

Падпісная цана на 1 месяц 50 гр., на 2 мес. 1 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 4, тэл. 14-35. | АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ.

ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ.

## Новы Сойм.

Новы Сойм распачаў сваё жыцьцё пад знакам няпэўнасьці. Пасьля першага паседжаньня, на якім былі дакананы выбары маршалка — сацыялістага І. Дашынскага, а не кандыдата Безпартыйнага Блёку п. Бартэля, зьявілася небясьпека, што новы Сойм будзе недаўгавечны, як няздольны да творчага супрацоўніцтва з урадам Маршалка Пілсудзкага. Але відаць сама выпадковая „большасьць дэманстрацыйнае апазыцыі" зразумела ўсю гэтую небяспеку і пачала рабіць тое, што ад яе вымагае ўрад і дабро Дзяржавы.

Першыя надзеі на тое, што новы Сойм будзе лепшы за папярэднія, нажаль не спраўдзіліся. Хаця падчас выбараў да Сойму за Безпартыйны Блёк супрацоўніцтва з урадам выказалася даволі значная частка польскага і нават няпольскага грамадзянства, аднак-жа гэты Блёк аказаўся ў Сойме ў меншасьці. І ласьне выбары маршалка Сойму былі спробаю сілаў супраціўных лагераў, ад пасьпеху якой залежыў далейшы ход соймавай працы. І ў выстаўленьні кандыдатуры даверанай асобы маршалка Пілсудзкага віцэ-прэм'ера Бартэля на становішча маршалка Сойму трэба бачыць не жаданьне Ўраду навязаць Сойму свайго кандыдата ў маршалкі, але першую спробу супрацоўніцтва Ураду з новым Соймам. Асоба п. Бартэля зьяўлялася нібыта сымбалам таго, што Сойм дабравольна зыйшоў з шляху бясплоднае палітычнае барацьбы і шчыра жадае прыняцца за рэальную працу, аб якой усімі гэтак шмат гаварылася ў часе выбараў.

Але працягнутая рука ўраду засталася адхіленаю, і ў выніку вытварылася дзіўная і зусім ненармальная сытуацыя:

1) Найбольшая лічбавая група, як Безпартыйны Блёк, налічваючая 142 паслоў, ня мае ніводнага свайго прадстаўніка ў прэзыдыуме Сойму і

2) Урад ня мае ў Сойме пэўнае большaсьці, якая будзе вытварацца ад выпадку да выпадку.

Зусім зразумела, што гэтая ненармальная і няпэўная сытуацыя не аслабіць становішча Ураду Маршалка Пілсудзкага, моцнага агульным даверрам Дзяржавы. Аднак-жа можа шкадліва адбівацца на агульнай працы Сойму і на паасобных ягоных партыях і групах, асабліва слабейшых. Мэты дэманстрацыйнае апазыцыі польскае сацыялістычнае партыі, налічваючай 63 паслоў у Сойме, ці Вызваленьня зусім зразумелыя: яны хацелі паказаць Ураду, што стварэньне ўрадавай большасьці ў Сойме залежыць толькі ад іх. Магчыма, што калі-б Безпартыйны Блёк уступіў з імі ў перагаворы да выбараў маршалка Сойму, дык пры пэўных варунках і абавязацельствах моглі-бы схіліць іх на свой бок. Ня выключаецца яшчэ магчымасьць гэткае згоды і ў будучыні. Сацыялістам і Вызваленцам залежыць толькі на тым, каб, прадэманстраваўшы сваю моц ў Сойме, потым уплываць на Ўрад у тым ці іншым кірунку на карысьць толькі сваей партыі. Гэткае тактыкі яны трымаліся у папярэдніх Соймах і спадзяюцца яшчэ з большым пасьпехам трымацца яе ў цяперашнім Сойме.

Але няма ведама, ці задумаліся паважна над сваім крокам нашы беларускія паслы, калі дэманстравалі сваю апазыцыйнасць у адносінах кандыдатуры п. Бартэля разам з сацыялістамі, вызваленцамі і жыдамі. Няўжо-ж і яны

думаюць, што будуць мець у Сойме тую самую вагу, як сацыялістыя, вызваленцы і іншыя буйныя польскія партыі.

Здаецца папярэдні Сойм даў ужо даволі прыкладаў таго, як з ім лічыліся гэтыя партыі, а на'т і жыды. Падтрыманьне з імі апазыцыйнае соймавае большасьці йшло заўсёды не на карысьць, а на шкоду нашаму Народу.

Трэба думаць і спадзявацца, што гэты першы самастойны крок нашага новага прадстаўніцтва ў Сойме быў зробляны па інэрцыі, як водгук папярэдняй „апазыцыі", і што у цяперашнім Сойме нашыя паслы займуць пазыцыю для творчае працы на большую карысьць для свайго Народу.

# ЗА ТЫДЗЕНЬ.

Пятая сэсія камісіі па разбраеньню ў Жэневе пры Ліге Народаў закончылася, як і трэба было чакаць, у практычным сэнсе нічым. Аднак-жа заслугуе на ўвагу дзеля таго, што лясьне на ей разыгралася барацьба між двумя дыямэтральна працілежнымі паглядамі на праблему разбраеньня — радава-нямецкага і Заходняга. Ніхто ня сумляваўся ў тым, што радавая прапазыка будзе ўхілена, але толькі цікава было, ці ўдасца здэмаскаваць запраўдную мэту першага выступленьня бальшавікоў на міжнародным тэрэне і ці удасца Літвінаву выканаць сваю місыю агітатара камуністычных лёзунгаў з гаеьцiннай жэнэўскай трыбуны.

Аднак-жа, ня гледзячы на падтрыманьне з боку нямецкага дэлегата графа Бэрнадорфа, выступленьне Літвінава пацярпела поўнае фіяско. Між дэлегатамі Англіі, Злуч. Штатаў, Францыі, Японіі, Італіі, Польшчы і іншых дзяржаваў панавала поўная згода. Найбольшы адпор радава-нямецкая прапазыка спаткала з боку прадстаўнікоў Англіі Гібсона і Злучаных Штатаў — Кэшэндуна. Заместа правакацыйнае прапазыкі Літвінава агульнага разбраеньня была падкрэсьлена ідэя ўзмацненьня бясьпечнасьці як прынцыповая падстава ўсялякай акцыі на карысьць міра.

У выніку гэтага Літвінаў узяў назад свой праэкт разбраеньня, падаўшы затым „кампрамісавы", які прадбачыць разбраеньне частковае.

Новы „кампрамісавы" радавы праэкт прадбачыць для дзяржаваў, якія маюць армію больш 200,000, зьмяншэньне яе на палову. Дзяржавы-ж, маючыя армію менш 20,000, зьмяншаюць яе на $^1/_3$ — $\frac{1}{4}$

Калі ўзяць пад увагу, што Радавая Расея апрача 600,000 рэгулярнай арміі мае каля 900,000 гэтак званай арміі тэрытар'яльнай, затым шмат спэцыяльных фармаваньняў як атрады Г.П.У. (чрэзвычайка), дык адразу будзе відаць цынізм радавага „разбраеньня на палову". Пасьля гэткага „абмяжаваньня узбраеньняў" у Расеі засталася-б рэгулярная армія ў 750,000 чалавек побач з 150,000 польскай арміі.

Затым радавы праэкт прапануе зьніштажэньне танкаў і дальнабойных гарматаў. Гэта зусім зразумела, бо бальшавікі пры сваей слабай тэхніцы ня могуць цягацца з Заходам, у руках якога гэты від узбраеньня можа мець найбольшую пераваrу ў выпадку аружнай спатычкі з Радаваю Расеяй.

Прынятая бальшавікамі лічба „200", як дзелячая дзяржавы на вялікія і малыя, утрымана і для ваеннага флёту. Дзяржавы, маючыя ваенны флёт панад 200,000 тонаў, павінны зьменшыць яго на палову, а маючыя менш 200,000 т., — на $^1/_3$—$^1/_4$ частку. На практыцы гэта прывяло бы да зьменшаньня напр. англійскага флёту з 1,800,000 тонаў да 650,000 т., а расейскага з 128,000 т. да 92,000 т., што пры 150,000 т. зусім новага нямецкага флёту дала-бы гэткім хаўрусьнікам магчымасьць мець у Балтыцкім моры 240,000 т, значыць гэткую сілу, з якою нават Англія не магла-бы пасьпешна бароцца без аслабленьня сябе на іншых тэрэнах вайны.

Што-ж датычыць прапазыкі зьменшаньня ліку ваенных аэрапляпаў і поўнага зьніштажэньня хімічных і бактэрыялягічных сродкаў, вызначаных для ваенных мэтаў, дык яе ня можна паважна трактаваць. Як кожнае пасажырскае марское судно лёгка можна прыстасаваць да ваенных мэтаў, так і кожны пасажырскі аэраплян, ці хімічную фабрыку прыстасаваць для патрэбаў фронту. Дзеля гэтага ніхто паважна не аднёсся да радавае „кампраміcовае" прапазыкі частковага разбраеньня, маючай толькі агітацыйнае значэньне. **N.**

# Абход 10-х угодкаў Незалежнасьці Беларусі у Вільні.

25 сакавіка ў Вільні абходзілася ўрачыстасьць сьвяткаваньня 10-х угодкаў абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі.

Па ініцыятыве Беларускага Нацыянальнага Камітэту № 2, на чале якога стаяць сэнатар Багдановіч і паслы Ярэміч і Каруза, сьвяткаваньне распачалося малебнамі: а 10 гадзіне ў касьцеле Сьв. Міхалая і 12 гадзіне ў царкве Сьв. Тройцы.

У касьцеле, а асабліва ў царкве прыйшоўшых памаліцца і адзначыць гэты ўрачысты дзень было шмат, — амаль што ня ўся нашая віленская беларуская інтэлігенцыя. Сабраліся ўсе кірункі палітычных думак і напрамкаў. Паміж іншымі былі прысутнымі сэнатар Багдановіч, паслы Ярэміч, Каруза і Стэповіч, Янка Станкевіч і Валынец. З іншых беларускіх дзеячаў: п.п. Тодар Вернікоўскі, інж. Дубейкоўскі, прыехаўшы з Варшавы інж. Зенкевіч, кс. Станкевіч, а так сама вучыцелі, студэнты, вучні,

прадстаўнікі нашае прэсы—„Маланкі“, „Сялянскай Нівы“, „Грамадзяніна“, „Бел. Крыніцы“, „Бел. Дня“ і іншых.

Як у касьцёле, так і царкве былі выгалашаны прамовы. Але прамовы былі інакшыя, чымся ў прошлым годзе, зусім не на тэму і мала датыкаючыя ўрачыстасьці дня. Ад 6 ай г. увечары ў памешканьні Нацыянальнага Камітэту распачалася ўрачыстая акадэмія. За прэзыдыяльным сталом былі п. Багдановіч, Яроміч і Каруза. Сярод прысутных амаль што тыя самыя, што былі і на малебнах. Ня было відаць толькі прадстаўнікоў левых кірункаў і групы Янкі Станкевіча, якія былі на спэктаклі ў Віленскай Беларускай Гімназіі.

Пасьля ўступнай прамовы сэнатара Багдановіча, віталі прысутных ад літоўцаў — прадстаўнік Літоўскага Камітэту, ад Польскага Грамадзянства п. Л. Абрамовіч—рэдактар „Przeglądu Wileńskiego“ і ад жыдоў была прачытана тэлеграма доктара Выгодзкага.

Добрае і сільнае ўражэньне зрабіла прывітальная прамова прадстаўніка студэнцкай моладзі п. Станкевіча, які ў шчырых словах заклікаў нашую інтэлігэнцыю да аб'яднаньня і згоды.

Па прывітаньнях прачытаў рэфэрат новавыбраны пасол п. Каруза.

Пасьля рэфэрату на сцэне была адыграна інсцэнізацыя вершаў Янкі Купалы „На Папасе“.

Урачыстасьць закончылася канцэртам з удзелам хору і балалаячнага аркестру.

У гэты-ж вечар у Віленскай Беларускай Гімназіі быў наладжаны ўрачысты вечар. Ставілася п'еса Марцінкевіча „Пінская Шляхта“. Агульнае ўражэньне вельмі добрае. Па мастацку выпаўнілі свае ролі: Крукаў, станавы прыстаў — вучыцель Віл. Бел. Гімназіі, гр. Міхалевіч, Ціхан Пратасавіцкі, вучань VI кл. Лукашык. Марыся яго дачка, вуч. VII кл. Ст. Туркевіч. Іван Ціхай Ліпскі вуч. VII А. Таранда Грышка, яго сын, вуч. VIII кл. Я. Хвораст. Цімох Альпінскі вуч. VII кл Вакач. Базыль Сташкевіч вуч. VI кл. Ворэпін Харытон. Куторга — артыста Л. Замэцкі. Дзесяцкі—вуч. VI кл. А. Жабінскі і 10 іншых асоб, як акалічная шляхта. Заўважывалася толькі ў некатарых артыстаў незапаведная падгатоўка роляў, што зьяўляецца мінусам агульнага ўражаньня. Але на найбольшую ўвагу заслугоўваюць ў гэтым вечары выступы артысткі сьпеву А. Зубовіч. Чаруючым сваім сьпевам яна выклікала воплескі на ўсей салі; ў канцы вечара вучнёўскі хор пад кіраўніцтвам гр. Шырмы, які выканаў наступныя песьні: „Краіну Родную“ муз. Тэраўскага, „Зорачкі“, „Ой ты вецер“ і „Руччаёк“.

## Беларуская прэса аб сьвяткаваньні.

„Сялянская Ніва“ (N 25) пасьля сьвяткаваньня ў справаздачы аб урачыстасьці піша:

> Утрымаць сваю дзяржаўную незалежнасьць Беларусі Народ тады ня змог... Незалежнасьць была ізноў утрачана. Але ж Ідэал астаўся.
>
> Сьвяткаваньне гэтае зьяўляецца доказам, што Ідэал незалежнасьці жыве і служыць мэтаю нашых імкненьняў.
>
> У іншых выпадках гэта—юбілей, які мог-бы зьяўляцца асобным трыумфам. Для нас-жа, Беларусаў, сёлета, як і ў мінуўшыя гады—сьвяткаваньне абвяшчэньня незалежнасьці асталося — праверкаю жывучасьці нашага Ідэалу.

* * *

„Бел. Дзень“ у дзень сьвяткаваньня ў перадавым артыкуле пасьля гістарычнаэ прадпасылкі піcaў:

> Для нас незалежнасьць ізноў астаецца Ідэалам. Ён жыве ў душы кожнага сьвядомага Беларуса, як яго найчысьцейшае, найсьвятлейшае пачуцьцё.
>
> Але гэта яшчэ не азначае таго, што беларусы незалежнікі зьяўляюцца ворагамі тае дзяржавы, ў якой воляю лёсу і гісторыі прышлося ім жыць.
>
> Незалежнасьць толькі тады можа быць зьдзейснена, калі ў самым Народзе будзе крыніцай нацыянальная сьведамасьць...
>
> Якраз гэтых канечных прадпасылак не хапала ў 1918 г. падчас акту 25 сакавіка.
>
> І дасюль мы, беларусы, пазбаўлены іх. Асабліва адчуваецца нястат культурных грамадзкіх сілаў...

Грамадоўская „Воля Працы“ глядзіць на гэтую урачыстасьць, як наагул на ўсё акружаючае, праз свае клясова чырвоныя акуляры. Яна піша:

> На Усходзе Ідэал працоўнай Беларусі зьдзейсьніўся. Паўстала Незалежная Беларуская Дзяржава факту істнаваньня якой ніхто ня можа запярэчыць...

Што „Воля Працы“ дый наагул камуністычная прэса не запярэчвае гэтага факту, гэта праўда. Затое само жыцьцё запярэчвае. А што ж тады значаць бязконцавыя паўстаньні саміх працоўных „Незалежнае Усх. Беларусі“?

## Сьвяткаваньне ў Празе.

25 сакавіка аб'яднаны камітэт Беларускіх арганізацыяў у Чэхіі наладзіў урачыстую акадэмію, прысьвечаную дзесятым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Бел. Нар. Рэспублікі.

У праграму акадэміі ўваходзілі два рэфэраты, выгалашаныя В. Захаркай на тэму: „Дзесятыя угодкі абвешчаньня незалежнасьці Б. Н. Р.“ і д-рам Т. Грыбам на тэму: „Асноўныя ідэі Устаўных Грамат Б. Н. Р.“ Акадэмія распачалася а 3 гадзіне па палудні ў салі рэстаўрацыі „U Jelenu“ і згуртавала шмат асоб, сярод якіх была пераважна беларуская студэнцкая моладзь з Пражскага ўнівэрсытэту. Былі прадстаўнікі і іншых нацыянальнасьцяў: украінцы, расейцы, чэхі, армяне і інш.

---

# Прывітальныя тэлеграмы.

У дзень сьвяткаваньня 10-ых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі на імя п. Т. Верніcoўскага былі атрыманы прывітальныя дэпэшы ад наступных аддзелаў Т-ва „Прасьветы“:

„Вітаем усіх дзеячоў з дзесятымі ўгодкамі Абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі. Лебедзеўскі аддзел „Прасьветы“. Сьвірыда“.

„Шчыра вітаем беларускіх

прэдстаўнікоў з сьвятам дзесятых угодкаў Абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі. Маладэчанскі аддзел „Прасьветы".

„Вітаем з 10 угодкамі. Вялейскі аддзел „Прасьветы".

## Пётра Антонавіч Крэчэўскі.

Пётра Ант. Крэчэўскі радзіўся ў 1879 годзе ў Горадзеншчыне. Адукацыю атрымаў у Віленскай Духоўнай Сэмінарыі, пасьля якой аддаўся грамадзкай працы ў крэдытных установах і таварыствах, дзе займаў становішчы інспэктара.

У часе сусьветнай вайны быў узяты да войска, як вайсковы урадовец. У часе рэвалюцыі на Усходзе Эўропы 1917 г. актыўна прыступіў да працы у беларускіх арганізацыях.

Восеньню 1917 года узяў удзел у Першым Усебеларускім Зьездзе, на якім быў выбраны Сябрам Выканаўчага Камітэту.

У 1918 годзе быў Галоўным Арганізатарам Беларускай Гандлёвай Палаты і быў абраны старшынёю яе з аднача̀совым выкананьнем абавязкаў сэкрэтара Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

У канцы 1918 года змушан быў эміграваць з Менску да Вільні, а потым далей да Коўны, дзе працаваў у Міністэрстве Беларускіх Спраў і аднача̀сова выконваў абавязкі Сэкрэтара Рады Б. Н. Р.

У палове 1919 году П. А. дэлегуецца ў Беларускую місыю ў Бэрліне.

Восеньню 1919 года П. А. выклікаецца з заграніцы на Бацькаўшчыну, дзе яго 13 сьнежня 1920 г. выбіраюць у Менску Старшынёю Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Затым П. А. другі раз змушаны быў эміграваць ў пачатку сьнежня 1920 г. да Бэрліна. Прыехаўшы туды, П. А. вядзе заграні̇чную палітычную беларускую працу. Калі сталася мірная згода паміж Літвою і Расеяй, П. А. з Бэрліна пераеж̌джае ў Латвію, дзе разам з урадам Б. Н. Р. вядзе палітычную працу. Пасьля заняцьця Вільні праз гэнэрала Жэлігоўскага П. А., як старшыня Рады Б Н. Р., высылае дэлегацыю да Літоўскага Ураду, якая робіць з Урадам палітычнаю ўмову. Пасьля гэтай ўмовы П. А. пераеж̌джае да Коўны.

У верасьні 1921 г. П.А. склікае у Празе Чэскай Беларускую Палітычную Нараду, на якой бярэ самычынны удзел. Пасьля сканчэньня прац нарады П. А. застаецца у Празе Чэскай і вядзе працу па здабыцьці стыпэндыі для беларускіх матурыстаў пры чэскіх вышэйшых учэльнях і дзякуючы яго стараньню беларусы дасталі 150 стыпэндыяў ад Чэскага Ураду.

У 1922 годзе, калі беларуская дэлегацыя ў Гэнуі зрабіла палітычную памылку і стварыўся крызыс ураду Б. Н. Р., П. А. прыеж̌джае ізноў да Літвы і ліквідуе гэтую памылку і самы крызыс ураду.

У 1923 г. П. А., убачыўшы няшчырасьць Літоўскага Ураду да беларускага пытаньня, пераеж̌джае да Прагі Чэскай, дзе арганізуе беларускую калёнію і ўвесь аддаецца культурнай працы, аднача̀сова не пакідаючы і палітычнай.

У пачатку лютага 1928 г. П. А. цяжка захварэў і праз месяц цяжкай хваробы 8 сакавіка г. г. памёр ў Празе Чэскай ў Вінаградзкім шпіталю.

Нябошчык П. А. належыў да ліку тых людзей, веры якіх ніхто і ніщто не патрапіла зламаці. Непераможная вера ў Беларусь, як вольную і непадзельную дзяржаву, заўсёды была правадыром ягоным. Верны гэтай ідэі, П А. лёг у магілу.

Будзь-жа яму лёгкай гасьцінная Чэская зямліца! Калі-ж жыцьцё дазволіць здабыць шчасьлівую долю Беларусі, косьці ягоныя ня будуць забытымі.

Мір праху твайму!

### Паніхіда па сьв. п. П. Крэчэўскім у Празе.

22 сакавіка адбыліся ў вялікай салі рускага дому ў Празе Чэ-

## Трагэдія беларускай вучнеўскай моладзі.

Матар'яльны дабрабыт Зах. Беларусі паволі палепшаецца. Ня гледзячы на фінансовыя труднасьці Дзяржавы, не пазваляючыя распачаць адбудову зьнішчаных вайною тэрэнаў у шырокім маштабе, усё-ж такі ў гэтай галіне дзяржаўнага жыцьця зроблена шмат. Узьбілася нарэшце на добры шлях і зямельная рэформа. І толькі ў галіне духовага разьвіцьця беларусоў робіцца вельмі мала, калі не сказаць, што амаль нічога.

Праўда, пасьля разгрому пачатковага школьніцтва Станіславам Грабскім зроблены ўрадам Маршалка Пілсудзкага першыя крокі ў кірунку направы гэтай крыўды для Беларускага Народу. Адчынены 21 дзяржаўныя беларускія пачатковыя школы. Але гэта капля ў моры. А яшчэ менш зроблена для сярэдняй і вышэйшай асьветы. З гэтага боку мы пакрыўджаны больш за ўсіх. Немцы, жыды, украінцы і нават расейцы, якія стаяць значна вышэй за нас матар'яльна і культурна, маюць не адну гімназію з дзяржаўным падтрыманьнем і правамі, з якіх адчынены вольны доступ да вышэйшых польскіх учэльняў. А бедны Беларускі Народ зусім пазбаўлены гэтых магчымасьцяў.

Праўда ёсьць на 2½ мільёнаў Беларускага Народу 4 беларускіх гімназіі — у Вільні, Радашковічах, Навагрудку і Клецку. Аде гімназіі гэтыя існуюць выключна на апошнія сьродкі бацькоў вучняў. Матар'яльнае становішча іх акропнае: большасьць вучняў ня мае падручнікаў і літэральна галадае. Дзеля гэтага німа нічога дзіўнага, што некатарыя з гэтых гімназіяў падпалі пад уплыў тэй ці іншай з беларускіх палітычных арганізацыяў, ад якіх карыстаюцца матар'яльным падтрыманьнем 'са шкодаю для вучэньня і адносінаўэ школьнымі ўладамі

скай грамадзянская паніхіда — акадэмія па дачасна памёршым старшыне Рады Б. Н. Р. П. Крэчэўскім. Паніхіда ладжана была Сацыялістычнай Лігай Новага Усходу, адным з сябраў і закладчыкаў якой быў П. Крэчэўскі.

А 5 гадзіне папал. акадэмію адчыніў уступным словам М. Шапавал (украінец) і запрасіў да прэзыдыуму: В. Чэрнова (расеец), д-ра Саўкула (чэх), А. Акіньяна (армянін) і В. Захарку (беларус). Пасьля гэтага слова была дадзена В. Захарку, як бліжэйшаму супрацоўніку і сябру памёршага.

Пасьля Захаркі выступалі з прамовамі д-р Саўкун, В. Чэрноў, д-р Т. Грыб, Акіньян, Чавчавані (грузін) і інш. Усе прамоўцы казалі аб змаганьні беларускага народу за волю ды незалежнасьць і аб ролі ў гэтым змаганьні П. Крэчэўскага. У канцы быў кінуты покліч да аб'яднаньня беларускіх сілаў.

## Паніхіда па П. А. Крэчэўскім у Коўні.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Коўні наладжвае 8 красавіка жалабнае паседжаньне, пасьвечанае памяці памёршага ў Празе 8 сакавіка Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Петры Крэчэўскага.

# Ліквідацыя інцыдэнту паміж „Грамадзянінам“ і „Беларускім Днём“ Ф. Умястоускага.

„Папраўка“, зьмешчаная ў газэце „Беларускі Дзень“ № 12 (52) ад 31 са кавіка 1928 г.

„Дзякуючы недагляду рэдакцыі ў № 11 „Бел. Дня“ папаў артыкул пад загалоўкам „Хто яны такія“, якому не магло быць месца на старонках „Бел. Дня“, вось дзеля якіх прычын:

1) Пасьля выхаду са складу арганізацыяў, згуртаваных каля „Бел. Слова“ д-ра Паўлюкевіча, працай каторых ён кіраваў фактычна, ня можам ідэнтыфікаваць нова-паўстаўшую часопісь „Грамадзянін“ з нядаўна памёршым „Бел. Словам“.

2) Да часу, пакуль „Грамадзянін“ ня выявіў яшчэ ў поўнай меры свайго палітычнага і грамадзкага вобліку, ня маём маральнага права ня верыць у шчырасьць яго пачынаньняў.

3) Для ацэнкі маральных кваліфікацый людзей, згуртаваных каля „Грамадзяніна“, ня мог „Бел. Дзень“ апірацца на пісьмах Л. Міцькі і Мацея Пятровіча, ў якіх яны выліваюць памыі на д-ра Паўлюкевіча і адначасна лаюць і яго супрацоўнікоў, бо-ж пісьмы гэныя былі рэзультатам асабістых парахункаў паміж Паўлюкевічам з аднаго боку, а Л. Міцько і М. Пятровічам з другого боку і дзеля гэтага могуць зусім мінацца з праўдай.

*Рэдакцыя*“

Прабег гэнае справы быў наступны: ў N 12—51 „Бел. Дня“ аказаўся зьмешчаны артыкул, абражаючы супрацоўнікаў „Грамадзяніна“. У адказ на гэта прадстаўнікі супрацоўнікаў „Грамадзяніна“ прыгатавалі ліст гэткага зьместу:

„Пану Рэдактару „Беларускага Дня“. У той час, калі беларуская прэса спыніла ўжо лаянкі і выліваньне брудаў на сваіх палітычных праціўнікаў, у Вашай газэце ў апошнім нумары быў зьмешчаны артыкул пад назваю „Хто яны такія“?. Мы ніжэйпадпісаныя пытаемся ў Вас, пане Рэдактар: 1) Ці з Вашага ведама гэты артыкул зьявіўся ў Вашай газэце? 2) Якія падставы Вы маеце для закідаў нам з боку маральнасьці, апрача Міцькінскіх і Пятровічаўскіх лістоў у газ. „Нашая Бацькаўшчына“? 3) Што выклікала паяўленьне гэтага артыкулу ў Вашай газэце? 4) Ці згаджаецеся ў працягу 24 гадзін пісьмом даць нам поўныя высьвятленьні і заве[д]амленьні з перапрасінамі, што гэны артыкуль зьявіўся ў Вашай газэце? Неатрыманьне адказу ў тэрмін дае нам свабоду чынаў. 13 гадзіна, 26 сакавіка 1928 г.

---

Але на гэтым яшчэ не канчаюцца мытарствы беларускае інтэлігентнае моладзі, якая імкнецца да здабыцьця вышэйшае адукацыі. Дзеля таго, што ўсе названыя беларускія гімназіі пазбаўлены дзяржаўных правоў, для іх выхаванцаў зачынены дзьверы польскіх вышэйшых учэльняў, бо вытрымаць матуру пры польскіх гімназіях экстэрнам вельмі трудна. І тут ласьне распачынаецца трагэдыя беларускае інтэлігэнцыі. Беларуская моладзь пасьля аканчаньня з вялікімі матар'яльнымі і духовымі высілкамі сваіх гімназіяў прымушана шукаць вышэйшай адукацыі за граніцаю.

Гэная эміграцыя за здабыцьцём вышэйшае асьветы кіруецца пераважна у двох напрамках — у напрамку Прагі Чэскай і Менску. І як тая працоўная эміграцыя за фізычнаю працаю, так і гэтая за асьветаю лічыцца згубленаю для свайго краю, бо ў большасьці сваей не варочаецца дамоў дзеля адсутнасьці для яе адпаведных пасадаў.

Гэткім чынам Беларускі Народ, бедны духова наагул, яшчэ значна траціць на тым, што лепшыя яго сыны па здабыцьці вышэйшае адукацыі за граніцаю працуюць на карысьць чужой культуры, у той час як у сябе дома адчуваецца вялікі недахоп у інтэлігэнцыі. На гэтым траціць і Дзяржава, бо бедны духова і матар'яльна народ лёгка падпадае пад уплыў варожых сабе чыннікаў. Заместа ўласнае інтэлігэнцыі, эміграваўшай безпаваротна за граніцу, прыходзіцца карыстацца „контрабанднаю“ з Усхода, ці Захада, якая працуе ў большасьці не на карысьць, а на шкоду Беларускага Народу і Дзяржавы.

Запабегчы гэтаму благу можна дваяка: 1) Урад павінен прыняць на свой дзяржаўны кошт і надаць правы беларускім гімназіям нароўні з польскімі гімназіямі, каб гэткім чынам адчыніць доступ для беларускае моладзі да вышэйшае польскае асьветы. 2) Павінен даць магчымасьць заняць адпаведныя ўрадовыя па-

Вільня, Завальная 6 — 4. Сьледуюць чатыры подпісы.

З гэтым лістом і з нумарам „Бел. Дня", дзе быў зьмешчаны абражаючы супрацоўнікоў „Грамадзяніна" артыкул — прадстаўнікі „Грамадзяніна скіраваліся ў рэдакцыю „Бел. Дня", каб тамака на мейсцы праз Рэдактара „Бел. Дня" — 1) высьвятліць гэтую справу і дайсьці да паразуменьня і 2) у разе адмовы пакінуць Рэдактару п. Умястоўскаму вышэй паказаны ліст.

Аднак жа, дзякуючы правакацыі трэціх асобаў, п. Умястоўскі застаўся папярэджаным, што быццам на яго асобу мае быць зроблены напад і дзеля гэтага засьцярогся ў людзёх і іншых сьродках абароны. І калі прадстаўнікі „Грамадзяніна" зьявіліся да яго, то ня толькі ня прышлося прыступіць да высьвятленьня сваей справы, але нават ня прышлося і пакінуць яму прыгатаваны ліст. Справа закончылася пратаколам у камісарыяце.

Прыймаючы цяпер пад увагу вышэйпаказаную папраўку „Беларускага Дня", — Рэдакцыя „Грамадзяніна" пераходзіць да дзеннага парадку.

Аднак-жа мусім адзначыць, што пасьля спыненьня „Беларускага Слова", выдаванага праз п. Паўлюкевіча, „Грамадзянін" выявіў кірунак свой зусім ясна і выразна. Гэтак у N 1 у перадавіцы „Наш шлях" гаварылася:"

Стоячы на грунце польскае дзяржаўнасьці, „Грамадзянін будзе заклікаць сваіх чытачоў перш-наперш да лёяльнага і суменнага выкананьня сваіх грамадзкіх абавязкаў, як у адносінах да Дзяржавы, гэтак сама і свайго многапакутнага Народу.

Вольны ад палітыканства і палітыкі ў тым дрэнным сэнсе, як яна разумеецца ў нас — узаемная лаянка і шальмаваньне, — „Грамадзянін" будзе заклікаць беларускае грамадзянства да культурнае працы, бо толькі культура яднае і духоўна ўзмацняе, ў той час як палітыка дзеліць, сварыць і губіць.

Будзе заклікаць да працы наагул, бо толькі ўзмоцненаю працаю мы здалеем вылячыцца ад старай хранічнай хваробы і палепшыць наш дабрабыт.

„Грамадзянін" першы бярэ на сябе ініцыятыву правядзеньня сяроц беларускага грамадзянства маральнае санацыі, без якой яно зусім можа задыхнуцца ў атручанай ўзаемнай ненавісьцю і палітычнай атмасфэры.

І мы пэўны, што беларускае грамадзянства, пераканаўшыся ў шкадлівасьці папярэдніх шляхаў, па якіх блуталася да гэтае пары, шчыра адклікнецца на наш заклік да нацыянальнае еднасьці, культурнае і гаспадарчае працы на карысьць свайго Народу і Краю.

У тым-жа нумары артыкул „На папярэдні 10 угодкаў незалежнасьці Беларусі" закончыўся гэтак:

А надыходзячыя 10-тыя угодкі Незалежнасьці Беларусі ў сваім сьвяткаваньні хай спыняць нарэшце шкодную, нікому не патрэбную братабойчую грызьню і як калісь — злучыць усіх, незалежна ад партыяў і палітычных кірункаў, у адзіную, моцную нацыянальным духам сямью.

Адгукніся інтэлігэнцыя! Аздараўляй душную атмасфэру і выконвай свой абавязак! „Грамадзянін" кліча, а вёска чакае...

У нумары 2 перадавіца „25-Ш 18—25-Ш-28" так сама закончвалася словамі:

„Дык няхай будзе лепшым нашым пажаданьнем у гэты ўрачысты дзень сьвяткаваньня 10 угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, каб спыніліся нарэшце ўсе нашыя ўзаемныя непаразуменьні, і каб праца над нацыянальным адраджэньнем пайшла на карысьць Бацькаўшчыне!

Дык скуль-жа ўзяў супрацоўнік „Беларускага Дня", артыкул якога „па недагляду" рэдакцыі быў зьмешчаны ў N 11, што „Грамадзянін" „чмуціць" Народ?

Ці-ж ня тыя самыя заклікі мы чулі на ўрачыстай Акадэміі абходу 10-ых угодкаў незалежнасьці Беларусі ў прывітальнай прамове прадстаўніка студэнцкае моладзі Ст. Станкевіча.

Ці можа карэктнасьць „Гра-

---

сады як тым з беларусаў, хто атрымаў вышэйшую адукацыю ў Польшчы, так і тым, хто вернецца па здабыцьці яе за граніцаю. Калі гэты плян немагчыма зьдзейсьніць адразу, дык пакуль што зрабіць хоць-бы адну беларускую гімназію дзяржаўнаю. Для гэтага, бязумоўна, найбольш надаецца Вільня, як культурны цэнтр Зах. Беларусі. Гэта значна паменшыла-бы інтэлігэнтны голад Зах. Беларусі і прычынілася-бы да палепшаньня узаемаадносінаў між Беларускім і Польскім братнімі Народамі, якія да гэтай пары трактаваліся ўрадам ня роўна.

Але калі само беларускае грамадзянства ня выступіць энэргічна перад урадам з жаданьнем спаўненьня гэтых элемэнтарных грамадзкіх правоў, дык ніхто аб нас не паруціцца. Дзіця не заплача, матка не пачуе. Як у дамаганьні пачатковае асьветы Беларускі Народ заманіфэставаў сваю грамадзкую дасьпеласьць, складаючы масава дэкларацыі школьным інспэктарам з жаданьнем адчыненьня пачатковых урадовых беларускіх школаў, гэтак сама ён павінен арганізавана выступіць з жаданьнем, каб для яго сыноў былі адчыняны дзьверы і да вышэйшых польскіх ўчэльняў нароўні з іншымі нацыянальнасьцямі, пражываючымі у межах Польскае Дзяржавы.

І ў той час, калі надходзяць экзамены ў нашых гімназіях і перад яе выхаванцамі паўстае гэтая трагэдыя ў поўнай сваей вялікасьці, мы выступаем з гэтым заклікам да беларускага грамадзянства з пэўнасьцю, што наш голас не застанецца бяз водгуку як у беларускай, гэтак і ў польскай прэсе, прыхільнай да беларускага народу, і што дойдзе, нарэшце, да слуху тых, ад каго залежыць направа як матар'яльных, гэтак і культурных нашых патрэбаў.

мадзяніна" адносна ўсіх, а асабліва „Бел. Дня", не падабаецца супрацоўніку „Бел. Дня"!!"

А можа ён думае, што ў беларускай прэсе можна так-такі заўсёды безпадстаўна і безадказна лаяць і бэсьціць, калі і каго захочаш і мо ня знойдзецца спосабу даць адчуць адказнасьць за свае словы?

Дык падкрэсьліўшы гэта, Рэдакцыя „Грамадзяніна" лічыць інцыдэнт з „Беларускім Днём" зьліквідаваным.

Першая камісія займецца гаспадарчымі справамі і камунікацыйнымі. Старшынямі яе будуць радца Шумлякоўскі і дырэктар Заўнюс.

Другая камісія будзе разглядаць пытаньні аб бязпечнасьці. Старшынёю з польскага боку будзе Начальнік Голуўка і з літоўскай — Валуціс.

Трэцяя камісія будзе займацца пытаньнямі пагранічнага руху. З польскага боку ўваходзіць радца Тарноўскі і з літоўскага літоўскі пасол у Бэрліне Сідзікаўскас.

Усе тры камісіі сабяруцца 20 красавіка ў Бэрліне, затым будуць засядаць: першая ў Коўні, другая ў Варшаве і трэцяя ў Бэрліне ці Кэнігзбэргу. Закан-чэньне кэнігзбэргзкіх перагавораў належыць лічыць як уступ да далейшых перагавораў.

# Апошнія навіны.

ПОЛЬШЧА.

## Сліканьне новага Сойму і Сэнату.

27 сакавіка быў склікаваны на першае паседжаньне новы Сойм і Сэнат. Урачыстае адчыненьне абедзьвух палатаў парлямэнту ад імя Прэзыдэнта Рэспублікі асабіста даканаў Прэм'ер Маршалак Пілсудзкі, адчытаўшы на сланьне Прэзыдэнта.

Пасьля прысягі паслоў быў выбраны прэзыдыум Сойму ў наступным складзе: Маршалак—Ігн. Дашынскі (P. P. S.), віцэ-маршалкі — Возьніцкі (Вызваленьне), Марэк (P. P. S.), Домбскі (Str. Chł.), кс. Чэтвертыньскі (Kl. Nar.) і Заганкевіч (Укр.). Сэкрэтарамі—Міхалькевіч( пяст), Урбанскі (Ch. D.), Пятроўскі (P. P.S.), Руг (Вызв.), Фіялкоўскі (Str. Cł.), Росмарын (кола жыд.), Корнэцкі (Kl. Nar.), Радыга (укр.) і Караў (немец).

Маршалкам Сэнату быў выбраны праф. Віленскага Унівэрсытэту п. Шыманьскі (Блёк супр. з Урадам). Віцэ-маршалкамі — сэн. Глівіц (Блёк супр. з Урадам), Паспер (P. P. S.) і Халутчынскі (укр.)

Па ўканстатаваньні прэзыдыуму Сойм прыступіў да разгляду дзяржаўнага бюджэту на 1928-29 г., які выпрацаваны Урадам у наступным відзе: агульная сума даходаў прадбачана ў лічбе 2,525,703,000 зл., сума выдаткаў — 2,478,370,000 зл. Гэткім чынам бюджэтны лішак мае быць каля 47 мільёнаў зл. Асаблівасьцю новага бюджэту зьяўляецца тое, што ў ім значныя сумы вызначаны на разбудову новых даходавых і наагул патрэбных для краю прадпрыемстваў і ўстановаў.

## Першы балянс Соймавай працы.

У суботу [31 сакавіка закончыўся першы акрэс Соймавай працы. Ухвалены бюджэтны прэлімінар на час ад 1 красавіка да 31 чэрвеня і законы аб адбудове. Абедзьве гэтыя прапазыкі ўхвалены ў сэнсе ўрадовых праэктаў з незначнаю папраўкаю P. P. S., на якую згадзіўся дакладчык бюджэтнай камісіі пас. Крыжаноўскі, каб субсыдыя ўрадоўцам была выплачана ў двух ратах – 20 красавіка і 20 траўня. Наступнае паседжаньне Сойму вызначана на 24 красавіка. На дзенным парадку—разгляд бюджэту, які да гэтага часу будзе разгледжаны бюджэтнымі камісіямі.

ЗАГРАНІЦАЮ.

## Польска-літоўская канфэрэнцыя.

30 сакавіка ў Кэнігзбэргу распачалася Польска-Літоўская канфэрэнцыя. На чале польскае дэлегацыі стаіць міністар заграьнічных справаў Залескі, а на чале літоўскай — прэм'ер Вальдэмарас. На канфэрэнцыю прыбыла шмат журналістаў з Польшчы, Літвы, Латвіі, Англіі, Францыі і Нямеччыны, якія надта цікавяцца вынікамі гэтай канфэрэнцыі. У размове з журналістамі міністар Залескі заявіў, што галоўнаю тэмаю канфэрэнцыі будзе ўрэгуляваньне, паштовае і тэлеграфнае і жал. дарожнае камунікацыі, гранічнага руху і сплаву па Нёману.

## Зачыненьне Польска-Літоўскай канфэрэнцыі.

Пасьля 4-х дзеннай працы польска-літоўская канфэрэнцыя ў Кэнігзбэргу 2 красавіка зачынілася. ня даўшы ніякіх вынікаў. На прапазыку польскае дэлегацыі літоўцы згадзіліся вызначыць тры камісіі, якія разгледзяць унесяныя польскія і літоўскія праэкты.

## Разьвязаньне Рэйхстагу.

На моцы дэкрэту прэзыдэнта рэспублікі 31 сакавіка быў разьвязаны Нямецкі Рэйхстаг з вызначэньнем тэрміну новых выбараў на 20 траўня.

## Албанска- сэрбскі канфлікт.

У зьвязку з зачыненьнем Юга-Славянска-Албанскай граніцы Албаніяй белградзкая газэта піша, што паважнасьць сытуацыі ляжыць у рыхтаваньнях, якія цяпер робяцца ў Албаніі з мэтаю наладжаньня збройных нападаў банд на тэрыторыю Юга-Славіі. Калі Албанскі урад ня споўніць юга-слаўскіх пастулятаў датычна ліквідацыі гэтых замераў, дык адносіны між Албаніяй і Юга-Славіяй могуць значна папсавацца.

## Наступ на Пэкін.

Палуднёвая армія пад камандаю Чан-Кай-Шэка распачала наступ на Пэкін. Штаб арміі ужо пераправіўся праз р. Ян-Тсэ. Чан-Кай Шэк асабіста кіруе акцыяй і знаходзіцца на фронце. Сытуацыя Пэкіна вельмі паважная дзеля таго, што паўночная армія вядзе барацьбу з арміяй гэн. Фэнга.

ЛІТВА.

## Палітычны працэс.

У Коўні закончыўся працэс 9 абвінавачаных у падрыхта-

ваньні паўстаньня ў Оліце. Вынясяны прысуд, паводле якога засуджаны на 4 гады катаргі, за 6 унявінены.

УСХ. БЕЛАРУСЬ.

## Выданьне Слоўніка Заходняй Беларусі.

„Савецкая Беларусь“ (№ 59) падае, што Слоўніковая камісія І. Б. К. зрабіла справаздачу на прэзыдыуме І. Б. К. аб сваёй навуковай дзейнасьці за апошнія тры гады.

За гэты час Слоўніковая камісія сабрала 375,000 картак—слоў, надрукавала слоўнік Віцебшчыны, адрэдагавала краёвы слоўнік Чэрвеншчыны і падрыхтавала да друку краёвы Слоўнік Мазыршчыны і Калінішчыны. У пачатку наступнага году камісія прыступае да выпуску 1 тому Беларускага Акадэмічнага Слоўніка.

Прэзыдыум І. Б. К прызнаў работу Слоўнікавай камісіі плянавай і энэргічнай. Разам з гэтым прэзыдыум І. Б. К. лічыць першачарговай задачай выданьне Краёвага Слоўніка Заходняй Беларусі.

## Байкот беларускай і жыдоўскай мовы на Беларусі.

„Зьвезда“ падае, што на пошце ў Менску пісьмо, адрэсованае па жыдоўскі, было выслана да Масквы для тлумачэньня дзеля таго, што ніхто на пошце не хацеў пераклумачыць. На паперы, як ведама, жыдоўская мова побач з беларускаю, расейскаю і польскаю лічыцца афіцыяльнаю. Гэтак сама і ў Гомлі была зьвернута паштовай канторай паштовая інструкцыя, напісаная па беларуску з надпісамі: „зацьвердзіць пасьля тлумачэньня на расейскую мову“.

Гэтак выглядае раўнапраўе моваў у Саўдэпіі.

## 25,000 руб. на Грамаду.

„Зьвезда“ падае, што ў Меншчыне сабрана 25,000 руб., якія высланы праз Мопр да Польшчы для Грамады.

С. С. Р. Р.

## Чычэрын выходзіць ў адстаўку.

Швэцкая газэта „Tidingen“ падае, што быццам дні ўрадаваньня Чычэрына зьлічаны. Сталін пераканаўся, што ў цяперашняй труднай сытуацыі адзінаю магчымасьцю ўратаваць камуністычную партыю ад упадку зьяўляецца ўтрыманьне левага кірунку, хаця-бы гэта прывяло да поўнае обасобляласьці Радавае Расеі. Затым Чычэрын быццам заявіў, што гэткі кірунак палітыкі перакрэсьліў-бы ўсю яго 10-ці гадовую працу ў галіне міжнароднай палітыкі. Дзеля гэтага ён рашыў выйсьці ў адстаўку.

## Арышты і растрэлы на Украіне.

Перасьледаваньне украінскіх сэпаратыстаў сярод украінскай камуністычнае партыі прынялі ў апошні час вельмі востры характар. Лік арыштаваных па абвінавачаньню ў падрыхтаваньні змовы, маючай на мэце адлучэньне Украіны ад С. С. Р. Р. у адным Харкаве дасягае 50. Шмат з іх ужо растрэляны.

# Гаспадарчы аддзел.

## Рэгістрацыя Закладных лістоў б. Дваранскага і Крэсьцьянскага банкаў.

Распараджэньнем Міністра Фінансаў ад 14 лютага 1928 г. (Dziennik Ustaw № 29) вызначана рэгістрацыя закладных лістоў б. „Дваранскага і Крэсьц'янскага Зямельных Банкаў“, знаходзячыхся ў пасяданьні асобаў, пражываючых на тэрыторыі Польшчы, а гэтак сама належных польскім грамадзянам квіткоў на гэтыя паперы, ўнесяныя на ахову на тэрыторыі належнай ў сучасны час Польшчы і вывезяныя з гэтае тэрыторыі ў С. С. Р. Рэгістраваць будзе Краёвы Гаспадарчы Банк і ягоныя аддзелы. Для гэтае рэгістрацыі павінны быць прадстаўлены гэтыя каштоўныя паперы, ці квіткі, пры „дэклярацыі“ (у 2 экзэмплярах), у якой павінны быць паказаны: 1) імя, прозьвішча і мейсца жыхарства асобы, якая хоча зарэгістраваць паперы. 2) імя, прозьвішча і мейсца жыхарства асобы—уласьніка гэтых каштоўных папераў, сэрыі і намінальная каштоўнасьць кожнай паперы асобна.

Апошні тэрмін да рэгістрацыі вызначаны на 15 красавіка 1928 году. Пасьля гэтага тэрміну, хто не зарэгістраваў, той траціць правы на рэгістрацыю.

## Такса за самовольную парубку леса.

Ваяводзтва апублікавала таксу, на падставе якой вылічваецца вартасьць самавольна высечанага лесу ў Віленскім Ваяводзтве.

Такса за парубку дуба ў залежнасьці ад разьмеру пня, у сантымэтрах вагаецца ад 0,36 гр. (1 — 5 сант.) да 474 зл. (66 — 70 сант.).

За парубку клёна і граба: ад 1 да 5 сант.—6,29 гр., ад 66—70 сант. 379 зл. 26 гр.

За парубку хвоі, альхі і бярозы: ад 1 да 5 сант. — 0,37 гр., ао 66 да 70 сант. 244 зл. 57 гр.

За парубку топаля і вярбы: 1 да 5 сант. — 0,11 гр., ад 56 да 60 сант. — 62 зл. 49 гр.

За парубку асіны і ліпы: 1 да 5 сант. — 0,24 гр., ад 56 да 60 сант. — 163 зл. 46 гр.

## Таваровы рух між Польшчаю і С. С. Р. Р.

На ст. Негарэлае адбылося адчыненьне безпасрэдняга таваровага руху між Польшчаю і С. С. Р Р.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

— ХРЫСТОС УВАСКРОС! НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ — КАТАЛІКОЎ ВІНШУЕМ СА СЬВЯТАМ ВЯЛІКАДНЯ!

— **Загад Ваеннага Міністра** Ваенны Міністар высьвятляе, што ў выпадку адмовы павятовымі адміністрацыйнымі ўладамі на заяву аб адсрочцы ваеннай службы (53 арт. 1, 2 і 3 пар.), ці аб зьменшаньні часу яе (56 арт.), роўным чынам аб карыстаньні льготамі (51 арт.), паклікаць мае

права ў працягу 14 дзён пасьля атрыманьня адмовы абжаліць гэтую адмову ў ваяводзтва. Абжаленьне гэтае трэба скіраваць па інстанцыям, г. ё. праз Старостава, якое адмовіла ў просьбе. Паданьне абжаленьня не збаўляе навабранца ад зачысьленьня яго ў рады арміі.

**— Новы беларускі банк ў Вільні.** Згодна з абвесткай аб рэгістрацыі паўстаў да жыцьця „Беларускі Земляробска Прамысловы Каапэратыўны Банк", які месьціцца ў Вільні на Вострабрамскай вул. 8 кв. 1. Таварыства— паёвае. Пай каштуе 20 злотых. Дырэктарамі вызначаны: Адам Більдзюкевіч, Ян Васілеўскі і Браніслаў Туронак.

**— Прыняцьце беларускіх матурыстаў да Унівэрсытэту.** З пачатку другога трымэстру прынята 7 беларусаў, скончыўшых беларускую гімназію, на прырода-матэматычны і гуманістычны факультэт Віленскага Унівэрсытэту.

**— Беларускія скаўты (гарцэжы).** У памешканьні амэрыканскае місіі мэтадыстаў на Мастовай вул. адбылася ўрачыстасьць прысягі першых двух беларускіх дружынаў скаўтаў. Дружыны складаюцца пераважна з вучаніц Віленскай Беларускай Гімназіі.

**— Маемасьць б. „Грамадзянскага Сабраньня".** На агульным сходзе сябраў б. „Грамадзянскага Сабраньня" пастаноўлена маёмасьць гэтага сабраньня перадаць у пакрэўную дабрачынную інстытуцыю. Аднак, як мы даведаліся, групаю сяброў зложана заява аб уневажненьні пастановы гэтага сходу з тае прычыны, што шмат асобаў, браўшых удзел у сходзе, ня былі праўдзівымі сябрамі б. „Грамадзянскага Сабраньня".

— „Бюлетэнь". У Рэдакцыі атрыманы чаргові нумар (№ 8) Бюлетэня загранічнай групы беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў.

Зьмест нумару: 1.—Расьцярушаньне сілаў (перадавіца). 2. — На шляху да вызваленьня. Т ш. 3.—Віленскае пытаньне. Т. Грыб. 4.—Аб эканамічным адраджэньні Беларусі. С.-л. 5.—Сацыялізм і Сялянства. Т. А. 6.—Да працоўных Грамад Беларусі. 7. — Яшчэ адна ахвяра на цярністым шляху вызваленьня (нэкралог П. Крэчэўскага). 8. — Водгукі жыцьця:—Парадная форма. — У разьбітага карыта.

**— Зборка на беларускі прытулак.** Арганізаваная ў Вільні Беларускім Камітэтам Помачы Ахвярам Вайны вулічная зборка на карысьць беларускага прытулку для дзяцей дала 650 зл. 35 гр.

**— У Беларускім Студэнцкім Саюзе.** Замест адмовіўшагася старшыні Б. С. С. гр. Т. Куніцкага, агульная зборка сяброў Саюзу, якая адбылася 13 сакавіка г. г., выбрала новага старшыню ў асобе гр. Гагалінскага.

**— Беларускі аддзел пры віленскай радыё-станцыі.** Кіраўніком беларускага аддзелу пры Віленскай радыё-станцыі назначаны магістр. права гр. Адольф Зянюк.

**— Беларуска-Украінскі хор.** Супольнымі сіламі студэнтаў украінцаў і беларусаў у Вільні зарганізаваўся хор, які цяпер ужо рыхтуецца да публічных выступленьняў. Рэгэнтам хору ёсьць гр. Ю. Формны.

**— Гурток студэнтаў украінцаў у Вільні.** У гэтым годзе студэнты ўкраінцы ў Віленскім Унівэрсытэце залажылі свой гурток, які мае часовае памешканьне на вул. сьв. Анны № 2.

**№ 2 „Студэнцкай думкі".** Вышаў з друку № 2 (9) часопісі „Студэнцкая думка" органу Бел Студ. Саюзу. Уступны артыкул прысьвечаны 10 угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

**— Новы нумар „Маланкі".** Вышаў чарговы нумар (4) гумарыстычнае часопісі „Маланка", які, як заўсёды, цікавы і жартаўлівы зароўна па сваіму зьместу, як і карыкатурам. Між іншым зьмешчаны карыкатуры на новаабраных беларускіх паслоў.

**— Арышт банды гандляроў жывым таварам.** У раёне Філіпава арыштавана банда, якая займалася рэгістрацыяй маладых вясковых дзяўчат быццам на сельскія работы ў Нямеччыне, а ўзапраўды адсылала лёгкаверных ў загранічныя дамы распусты.

## Пяіце песьні...

Пяіце песьні, ня будзьце сумны,
Пакуль прамень жыцьця ня згас.
Сваей душы раскрыйце струны,
Пяіце ўсюды кожны час.

Цяпер пяіце, як патокі
Магутнай сілай рвуць вам грудзь.
Цяпер адкрыты вам шырокі
Ў жыцьці свабодны, роўны пуць.

Пяіце песьні хоць у няшчасьці
На сэрцы будзе вам ляпей.
Вы ей пазбавіцесь напасьці
Ад бязсуменных ўсіх людзей.

Пяіце песьні, калі і іней
Пакрые вашу галаву,
Калі мінуласьць ў далі сіняй
Будзе здавацца, як ва сну.

Пяіце гэтак, як лебедзь горды,
Калі свой дух спушчае вон.
Няхай памруць вашы акорды
Сьпяванай песьні.. як дальні звон.

*У. В.*

## Працэс Грамадаўцаў.

### (Агульныя ўражаньні).

Працэс ідзе далей... Паабедзенныя паседжаньні зацягваюцца аж да 11 г. начы. Праходзяць сьведкі адзін па адным, — і малыя „конфідэнты", і вялікія, і звычайныя сьведкі з вёскі, і меставыя.

Адны „паказваюць ціха, ня пэўна, з асьцярогай, іншыя галосна, бойка, быццам на паказ...

Але бываюць і кур'ёзныя „паказаньні". Адзін сьведка дагаварыўся да таго, што быццам Тарашкевіч у 1917 ці 1918 г. у Менску у бальшавікоў займаў высокае становішча.

— А вы сьведка у гэты час былі у Менску? — пытаецца абарона...

— Не.., але... мая жонка мне пісала...

— Ах, жонка?!... А ці вы ведаеце, чыя ўлада была ў 1918 г. ў Менску?

Сьведка маўчыць...

— Ці ня былі тамака часам у гэтым годзе немцы?, — ня унімаецца абарона...

— А ў Вільні якая ўлада была у 1918 годзе?!

І сьведка гэтага ня ведае...

Іншы паказвае, што ён служыў разсыльным у „Гуртку“, і калі „Грамадаўцаў“ заарыштавалі, дык яму за той месяц ня была аплачана пэнсыя і просіць Суд: — „калі ласка зцягніце гэтыя грошы з падсудных“...

Падсудныя, а галоўным чынам галаўнейшыя відацi, замарыліся працэсам: адчуваецца нейкая вяласьць рухаў і няма тэй напружанасьці да паказаньняў, якая была раней. Хаця ў патрэбныя мамэнты бароняцца даволі рашуча. Падчас перарываў усе падсудныя быццам ажы ваюць Чуваць гутаркі, гоман, сьмех. І абаронцы сярод іх.

А саля падчас працэсу зусім пустуе. Ці ня выдаюцца прапусткі, ці наагул для публікі не пікава і чакаюць на заключныя прамовы.

Пуставата і за сталом для прэсы. А на'т сярод абаронцаў ня поўны комплект. І толькі за судзейскім сталом усё ў парадку, дый гадзіннік, што вісіць над падсуднымі, мінута за мінутаю, гадзіна за гадзінаю раўнаважна адбівае, як 100 — 500 гадоў назад, як 100 — 500 гадоў уперад — быццам кажучы: „а ўсё нішто ў параўнаньні з вечнасьцю“. Г. К.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.

## Жыцьцё вясковае жанчыны.

*(Наваградчына).*

Часта ў газэтах пішуць аб моладзі, аб сталых мужчынах, аб выпадках, розных здарэньнях і інш., а тымчасам мала хто ўспамінае што небудзь аб вясковых жанчынах.

Ведама да газэт па большай часьці пішуць мужчыны (нават можна сказаць вюключна *), дык аб жаночым жыцьці маўчаць...

А тымчасам сьвядомая беларуская жанчына, ці то дзяўчына, ці матка можа адыграць вялікую ролю у грамадзкім жыцьці. Дык вось тут у газэце хачу пару слоў напісаць аб палажэньні вясковых беларускіх жанчын.

Адукаваных жанчын на вёсцы сустрэць рэдка. Калі бацька (ведама-ж чалавек сьведамы) мае і сыноў і дачок, дык стараецца па магчымасьці даць адукацыю перш за ўсё сыном, а дачкі... дачкі на апошнім пляне. Наогул на вёсцы істнуе перакананьне, што жанчыне вучыцца не патрэба — ўсё роўна на бацькавым карку сядзець ня будзе век цэлы—пойдзе замуж. Нават у па чатковую трох-аддзяловую школу бацькі вельмі неахвотна пасылаюць дачок—падаюць да інспэктара просьбы аб звальненьні ад заняткаў і інш. Гэта тлумачыцца тым, што дзяўчына ад дзесяці гадоў патрэбна матцы; яна калыша дзіця, скрабе бульбу, прадзець кудзелю і наагул ужо прывыкае спаўняць ўсе абавязкі гаспадыні хаты.

Вясною-ці ўлетку дзяўчына зволніўшыся ад заняткаў у школе, пасе быдла, жне, грабець сена, пільнуе хаты і г. д. Пабыўшы гадоў шэсьць у школе, рэдка каторая дзяўчына навучыцца чытаць і пісаць, а выйшаўшы са школы, можа зразумее карысьць навукі, мо і адумаецца, але тагды будзе позна. Хоць каб і хацела тагды пайсьці ў школу (хоць гэткія выпадкі рэдка здараюцца), але бацькі не пускаюць. Вячорных курсаў для пераросшых ве кам у вёсках няма — школьныя ўлады зусім не цікавяцца пазашкольнай асьветай.

Дзяўчына пасьля гадоў шаснаццаці ці пятнаццаці пачынае хадзіць на зарабаткі Зарабаткі гэтыя ёсьць не заўсёды: рэдка калі вясною, а то часьцей восеньню. Вясной зарабаткі бываюць у траўні і чэрвені. У гэты час дзяўчаты полюць у маёнтках буракі. Плата за цэлы дзень працы (ад сонца да сонца) выносіць 1 (адзін) злоты.

Дык вот тут і заработкі! У каторае яшчэ дома нават хлеба няма, а зароблены грошы чакай аж на восень, пакуль пан намалоціць жыта. Восеньню заработкі бываюць у верасьні і кастрычніку. Працаваць прыходзіцца пры капаньні бульбы. Васеньнія зарабаткі шмат цяжэйшыя ад вясеньніх. Прыходзіцца працаваць у прымаразкі, у дажджы, непагоду, сьцюжу, а плата тая самая — адзін злот у дзень.

Наагул праз увесь год мала калі мае дзяўчына адпачынак. Не зазнае яна адпачынку і калі выйдзе замуж. Мужык, калі пападзецца нядобры ці п'яніца, дык проста здзекуецца над кабетай. Па выхадзе замуж гаспадарка, дзеці... Тагды жанчыне абсалютна няма як, хоць бы яна і хацела чытаць і пісаць, узяць у рукі і газэту. Яна лепш згодзіцца пагаварыць з суседкай і даць языку поўную волю.

Цяпер у кожнай бадай вёсцы ёсьць некалькі інтэлігентаў, якія па магчымасьці пашыраюць сьвядамасьць сярод хлапцоў, але на жанчын не зварочваюць ніякае ўвагі. А між тым матка можа куды большы ўплыў зрабіць на дачку ці сына і можа іх ад маленьства ўсьвядаміць, што яна, як і яе дзеці ёсьць ня хто іншы, а Беларусы.

Дык вось, разумеючы ўсё гэта і жадаючы духова падняць кабету на ровень з мужчынаю, трэба ў культуральна асьветных таварыствах, напр. у Т-ве „Прасьвета“, гуртаваць у гурток як найбольш жанчын. Трэба, каб хлапец побач з дзяўчынаю, мужык разам з жонкаю, бацькі разам з дзяцьмі — ўсе каб працавалі на карысьць нашага многапакутнага загнанага горам і бядою Беларускага Народу.

Толькі ўсе разам мы можам зрабіць якія-колечы поступы ў эканамічным ці культуральна-асьветным жыцьці. Праўда, ў нас на вёсцы істнуе яшчэ звычай, што мужчыны лічаць жанчын ня здольнымі да якой-колечы працы, аднак ня ведаюць, што ў некатарых эўрапэйскіх і пазаэўрапэйскіх дзяржавах жанчыны займаюць высшыя пасады. Нават у Польшчы ёсьць кабеты адвакаты, дактары, інжынэры і г. д.

*) ня выключна, бо нярэдка пад псэўданімам хаваецца жанчына. Рэдакцыя

Дык сьведамыя грамадзяне! Дайце мейсца ў сваіх радох нясьведамай беларускай жанчыне!

*Шышка*

## Наш дабрабыт залежыць ад нас.

(*Вёска Нарэйша, Сьвянцянскага п.*)

Прыбліжаецца вясна. Сонца, што раз сьвятлейшым і цяплейшым патокам залівае матку зямлю. Мімавольна ў душы сяляніна родзіцца радасьць і сьветлая надзея, бачучы нова адраджаючуюся прыроду. Кожнаму з сялян даволі агоркла зімовая пара. Як стараму, так і маламу абрыдла сядзець амаль паўгоду ў курных і цесных хатках. Як толькі зазігацелі касулі сонца ў нябеснай вышы, зарагаталі руччы ў полі і азваўся сьпеў зьвястуна вясны жаўранка, ніхто тады з сялян ня можа ўсядзець у хаце, кожны сьпешаецца на вольнае паветра, каб напоўніць засьмяглыя грудзі жыватворчай сілай вясны.

Але побач з тэй агромнай радасьцю, якую прыносіць вясна вясковаму сяляніну, яна прыносіць з сабой так жа досыць сумнае зьявішча, ад якога гэта залатая пара губляе шмат свайго чароўнага характэра. Хто жыў і жыве на вёсцы, той пэйна ведае, што характэр вясны псуе тое балота і бруд, якія заўсёды вясна прыносіць. Дзеля гэтага вясна найболей удаецца ў знакі сяляніну беларусу. Кожнаму ведама, што з пачаткам вясны пачынае ўсё адтаяваць. Тае сьнег, разходзіцца лёд і вытвараецца вельмі вялікі запас вады. А ў вёсцы ў нас няма пракопаных канаў, дзе-б вада гэтая зараз-жа магла зьбірацца і адплываць. З гэтай прычыны прыходзіцца найбольш цярпець нашаму сялянству. Калі пачне раетаяваць сьнег, якога за зімовы час назьбіраецца вельмі шмат, то з вёскі вытвараецца нейкая багністая рака. Ясна, што вясеньняя тэмпэратура ня так хутка патрапіць ператварыць у пару і асушыць ад балота вясковую вуліцу. Сонца разгрэваючы паступова зямлю, спрыяе да разбраканьня вёскі. Дзеля гэтага і прайці або праехаць нашу вёску проста немагчыма. Гразь і балота ўсюды па калені. Гразь гэта ня толькі што зьяўляецца на вуліцы і ў дварышчах гаспадароў, але часта прапікаець амаль ня ў кожную хату.

Цяпер хіба кожнаму будзе ясна, што і вясна для Беларуса нясе шмат пакуты і гора. Нават зірнуць і то ня прыемна, калі ўбачым вясковага сяляніна, абутага ў лапці, які ідучы праз вуліцу, месіць па калені гразь і купаецца ў вясеньнім балоце. А што можна перанасіць, будучы гэтым сяляніна м, знае толькі той, хто дасьведчыўся над сабой самім.

У гэткім жыцьці ня раз прыходзіцца чуць ад сялян наракань не на такую вясёлую пару, як вясна. Безумоўна ў гэтай справе болей вінавата само сялянства праз сваю нядбаласьць. Каб нашы сяляне мелі салідарнасьць і болей цікавіліся культурным гаспадарскім жыцьцём, дык напэўна пры невялікім высілку можна б было пазбавіцца гэтага балота і розных прыкрасьцяў, зьвязаных з ім. Можна і трэба супольнымі сіламі ўзяцца і пракапаць такія канавы, каб вада магла зараз-жа адплываць з вёскі, а вёску выбрукаваць камяньнямі. Трэба толькі мець грамадзкую зразумеласьць, і мы пракананемся, што праўду гаворыць прыказка: „дабрабыт залежыць ад нас саміх„

*Вясковы.*

## Забастоўка работнікаў тартаку.

(*Друя, Браслаўскага павету*).

У вёсцы Друйск Браслаўскага павету рабатнікі тартаку ў ліку 60 асоб зажадалі ад уласьніка тартаку Таўбмана падвышэньня платы і выдаленьня з тартаку тых работнікаў, якія знаходзяцца з іншых ваколіц. Калі жаданьне ня было выканана, працаўнікі забаставалі. Бастуючыя сілком адабралі ад працаваўшых сякеры і выгналі іх з вёскі, бо тыя згаджаліся працаваць таней. У зьвязку з гэтым арыштаваны Міхась Каролїч, Янка і Кірыл Ермалаевы, Фэлікс Рыхтэр і Браніслаў Шакель.

*Друявец.*

# Усячына.

## ЦІКАВАЯ ДУЭЛЬ.

У Быдгошчы здарыўся гэткі цікавы выпадак, ілюструючы маральны ровень сучаснай моладзі. У адну панну былі ўлюбляны два студэнты. Дзеля таго, што ніводзін з іх не хацеў уступіць другому аб'екту сваей любві, дык пастанавілі разрашыць гэтае пытаньне амэрыканскаю дуэльлю.

Рашылі ў адзін з двох кілішкаў з віном уліць атруты і разам выпіць гэтае віно. І эты суд павінна была выказаць аб'ект іх любві.

Але яна, каб пазбавіцца аднаго і другога, якіх аднолькова ня любіла, ўліла атруты заместа аднаго кілішка—ў два. Віпіўшыя ўлюбленыя віно з атрутаю былі ў паважным стане адвезяны да шпіталя.

Безсэрдэчная панна арыштавана.

## ЗАХВАРЭУ САМЫ СТАРЫ ЧАЛАВЕК НА СЬВЕЦЕ.

У Канстантынопалю захварэў самы стары чалавек на сьвеце Заро Ага, які мае 156 гадоў. Нядаўна ён выйшаў са шпіталю.

Да гэтай пары гэты сучасны Мафусаіл чуў сябе зусім добра. Кожны дзень хадзіў па кавярням у портавым квартале і прыймаў візыты турыстаў, прыбываўшых да Стамбулу.

Яму абрыдла яго цяперашняя жонка, якая мае 65 г. і ён намераваўся разьвясьціся з ею і ажаніцца на другой.

Заро Ага атрымлівае ад ураду ганаровую пэнсыю.

Адзін багаты амэрыканец запрапанаваў яму дажывотную добрую пэнсыю, калі ён пераедзе да Амэрыкі. Заро Ага згадзіўся на гэтую прапазыку, калі толькі пазволіць стан здароўя.

# Навука і тэхніка.

## Перавозка гарадоў.

Калі што надзвычайнае і дзіўнае, дык можна спаткаць толькі ў Амэрыцы. Там дайшлі да таго, што перавозяць з аднаго

мейсца на другое ня толькі шматпаверховыя дамы, але нават цэлыя гарады. Інжэнэр Ля-Плянт перавёз горад Осборн з 552 мураваных дамоў з лагчыны на ўзгорак на адлегласьці $2^1/_2$ кілямэтраў. Гэта трэба было зрабіць, каб уцячы ад паводкі. Перавазіць было асабліва цяжка таму, што на дарозе было балота.

Ля-Плянт наслаў піпаламі спэцыяльную дарогу, засыпаў яе зямлёй і ўтрамбаваў. Затым была пушчана ў ход цэлая сыстэма сталёвых бэлек і рэек, падёмных машын і г. д. Пад'ёмнымі машынамі адначасна саўсім бакоў дамы па сыгналу ўзьнімаліся з фундамэнту. Пасьля гэтага дамы перавазіліся па рэйках трактарамі і ставіліся на загадзя падрыхтаваныя ў новым месцы фундамэнты.

## Хірургія без нажа.

Нямецкі прафэсар Добэрлейн робіць складаныя апэрацыі без хірургічных мэталёвых інструмэнтаў: ён рэжа не нажом, а электрычнай іскрой. Дзеля гэтага ён ужывае пераменны ток вельмі высокага напружаньня.

Новы спосаб мае надта каштоўныя перавагі: ён абсалютна безапасны ў сэнсе занясеньня ў рану заразы і апрача гэтага пры такім спосабе апэрыраваньня хворы значна менш траціць крыві.

## Курорт у кратэры вулькана.

Ў Італіі, недалёка ад Неапалю адкрыт свайго роду курорт, зьмешчаны ў даўно пагаслым вулькане. Памешканьне для купаньня на 300 ваннаў знаходзіцца ў глыбіні вулькана. Вада там мае тэмпэратуру ад 81 да 105 градусаў цяпла.

Тры памешканьні, ў якія можна прайсьці праз асобны „грот", вядомы яшчэ з даўных часаў знаходзяцца яшчэ глыбей, чымся ванны. Адно з гэтых памешканьняў для паценьня, другое дзеля карыстаньня насычаным гарачым паветрам. У трэцім памешканьні тэмпэратура даходзіць да 75 градусаў гарачыні.

## Радыё—хвалі кругом зямной кулі.

У нямеччыне, недалёка ад Бэрліну быў зроблены цікавы вопыт прыёму з магутнай радыёстанцыі ў Паўночнай Амэрыцы. Адзін і той жа сыгнал з гэтай станцыі быў прынят каля Бэрліну па апараце не адзін раз, а два разы і больш з працягам часу паміж сыгналамі ў 0,13 сэкунды. Радыё-хвалі шыруцца з хуткасьцю сьвету—300,000 кілёмэтраў у сэкунду. Як відаць, радыё-хвалі агібалі некалькі разоў зямную кулю. За 0,13 сэкунды яны праходзілі 39,000 кілёмэтраў; гэта амаль што саўпадае з даўжынёй экватара зямной кулі.

## КУТОК ЖАРТАЎ і СЬМЕХУ.

### БУСЛЫ.

Малая дзяўчына да маткі:

— Мамка, чаму гэта буслы вылятаюць на зіму ад нас далёка на Поўдзень?

Матка. Бо і тамака людзі хочуць мець малых дзетак.

### НА РЫНКУ.

Жанчына вынясла на рынак прадаваць яйкі і просіць 2 зл. за дзесятак.

— Пані: to zadrogo!

— Не, панячка, я прашу толькі за яйкі, а не за дарогу.

### ЗАПЭЎНІЎ.

— І будзеш мяне напэўна любіць, калі выйду за цябе замуж?

— Як ты ў гэтым магла сумлевацца, мая дарагая? Я-ж заўсёды быў ласы на замужніх.

## У ДОКТАРА.

— Можаце быць спакойны: сам меў 10 гадоў назад гэткую хваробу. А цяпер бачыце, здароў як рыба.

— А ці ня мог-бы пан доктар даць адрэс таго доктара, ў якога пан лячыўся?

## Юрыдычныя парады.

**Грам. Ю. — Ч-му.** *Запытаньне.* Удава майго брата, які памёр у летку мінуўшага году, ня толькі не аддае мне застаўшайся маемасьці, хоць я ей пакідаў $^1/_3$ частку ўсяго — і зямлі будынку і рухомасьці, але бярэ сабе „прымаку" на ўсю гаспадарку і хоча яму апісаць гэтую гаспадарку. Дзяцей пасьля брата не засталося. Жылі яны 12 гадоў. Ці можа братовая гэтак зрабіць і што і як рабіць мне, каб не дапусьціць да гэтага?

*Адказ.* Прымака браць вашая братовая можа толькі на сваю г. зв. „удоўю" часьць, г. зн. $^1/_7$ часьць нярухомасьці і $^1/_4$ будоўлі. На ўсю гаспадарку памёршага мужа браць прымака з перадачай яму правоў на гэтую гаспадарку ня можа, бо права ўласнасьці на яе ня мае. Падайце ў Суд „powództwo" аб зацьверджаньні вас у правох наслледзтва пасьля памёршага брата, аб адабраньні ад удавы маемасьці памёршага і перадачы яе вам з выключэньнем законнай долі ўдавы, якая павінна застацца ў яе. Да справы трэ' далучыць; мэтрыку аб сьмерці брата і дакуманты, сьцьвярджаючыя вашае радство з ім.

## Паштовая скрынка.

Атрымана ад Ю. Сыча — 1 зл., П. Моніц — 2 зл. — Газэта высылаецца.



Адказны Рэдактар — Выдавец Тодар Вернікоўскі
Druk Bajewskiego Wilno.